Ад. XII
кн. 6
0418
0,90
1-9

Год I—1912. Апрэль—Красавік 1-ая кніжка.



ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

Падпісная цэна на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткой, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклам пры месячніку вагай да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы.

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

1140515
2835

# ДА ЧЫТАЧОЎ „САХІ“.

Для сельскай гаспадаркі у нас цяпер прыйшоў час перамен і пераходу да новай сыстэмы. Векамі нарыхтованая гаспадарка, гдзе скаціна трымалася толькі на малако для сябе і для гною, цяпер, дзякуючы змяніўшымся варункам, развіцьцю гандля, павялічэнью гарадоў і ліку людзей — неземлеробоў, каторых вёска мусіць карміць сваімі прадуктамі, — пераходзіць з зернавой на стадную,—значыць, прадукты ад жывёлы і з агародаў бяруць верх над жытам. Дзеля гэтаго трохпалёўка заменяецца вышэйшай пладазменнай гаспадаркай, гдзе кармавым, сеяным травам, бульбе, буракам і інш. даецца першае мейсцо.

Разам з гэтым паля патрэбуюць больш і мацнейшаго гною, ужываюць для гэтаго штучные гнаі (парашкі), зялёны гной і кладуць болей хлеўнаго гною, запас катораго ад лепшаго харчэваньня скаціны расьцець.

І вось у гэты момэнт, калі старая, выпрактыкаваная, пэўная сыстэма павінна заменяцца новым, невыпрабаваным, чаго вымагае само жыцьцё, павінна прыйсьці на помач навука для асьветленьня тых штодзенных пытаньнёў, каторые падымаюцца ў галаве гаспадара, каторые ён так ці інакш павінен укладаць у практыку. І вось даць атказы на ўсе гэтые новые пытаньня, што рабіць гаспадару пры новых варунках, „Саха“ і будзе старацца. Тлумачыць варункі, ад каторых робяцца перамены ў нашай гаспадарцы, паказываць тые перамены, якіе трэба зрабіць ва ўсіх часьцях гаспадаркі, апісываць тэхнічные перамены і навіны, каторые саўсім годны для нас, гэта і ёсть мэта, каторую ставіць сабе „Саха“, і рэдакція яе будзець шырыць паміж чытачоў усё тое, што заведзена і выпрабавана нашымі лепшымі гаспадарамі, будзе загадываць усім патроху рабіць і новые пробы.

Разумеючы ўвесь вялікі ціжар, які бярэць на сваё суменьне рэдакція, мы моцна просім усіх людзей, каторым ляжыць на сэрцы поступ упярод нашай сельскай гаспадаркі, працаваць разам з рэдакціей.

Усё, што праверэна лепшымі гаспадарамі і можэ быць ужо без рызыкі заведзена і у нашай гаспадарцы, ніхай кожны шырыць на страніцах „Сахі“, каб гэтымі навінамі могла карыстацца ўся наша дробная шэрая гаспадарка. Ей і будзе старацца памагаць рэдакція „Сахі“ разам з сваімі будучымі супрацоўнікамі.

---

# Сельска-гаспадарская навука і практыка.

Не работніку на фабрыцэ, ні рэмесніку не патрэба так многа навукі і практыкі, як сельскаму гаспадару, бо земляроб сам сабе і слуга і пан, павінен працаваць і рукамі і галавой.

Ні з жалезам, цэглай, камнем, дрэвам трэба спатыкацца землепашцу, а з жывой натурай: глебай, расьлінай, жывёлай, кліматам, тарговымі рынкамі, каторые павінен добра пазнаць; трэба ешчэ вясьці вайну з ворагамі гаспадарства—зёламі, жукамі, чэрвямі, разумець гдзе калі і як прадаць рэшткі прадуктаў сваей працы; наш беларус, як прывыкшы жыць падворным жыцьцём, а не абшчынным, як велікарус, цяжка ўцягіваецца у хаўрусы—сельска-гаспадаркіе, банчковые, тарговые, а без гэтаго трудна выбіцца с цяжкаго жыцьця хлебароба. Калі паглядзім на заходня-эўрапэйскіе гаспадарствы і Амэрыку, то прызнаем, што дзеля таго у іх так высока стаіць земляроб-

ства, што там злажыўся вялікі хаўрус паміж навукай і гаспадаркай. Навука шырыцца газэтамі, кніжкамі, чытаньнямі вандруючых па вёскам вучоных аграномоў.

У Амэрыцэ німа фэрмэра, каторы бы не віпісываў 2 — 3 сельск.-гаспад. газэт.

У нас у Беларусі гаспадарка трымаецца на тых способах, каторые дайшлі да нас ад айцоў, дзядоў, і наша практыка ня больш таго, што мы відзім навакол сябе, „у людзей“. На аграмічную навуку глядзяць па вёсках, як на пацеху паноў і вучнёў. А тым часам, калі спытаешся прастака, хто навучыў яго сеяць, напрыклад, лубін, ён вам адкажэ, што навучыўся на людзях, альбо у пана. А тым часам у Эўропе ужо карыстаюць з лубіна з двадцатак гадоў, а немецкі вучоны, Гельрігель, вытлумачыў 50 гадоў таму карысць лубіну і матыльковых расьлін.

Значыць, староняцца навукі аграноміі людзі затым, што яе ня ведаюць.

**г. Ново-Александрыя.**
**М. Б—н.**

---

# Работы у полі вясной.

Аруць і баранують зямлю, каб яна абветрывалася, лепш перэгнівалі і распукаліся розные часьці, каб імі лёгка маглі ужо харчэвацца расьліны; пульхная зямля рыхтуець расход і прыход вады. а напрыклад убітая зямля шмат глыбей прасыхаець летам, бо вада з самаго нізу падымаецца сілай так званай валоснасьці, як па кноце керасіна у лямпе, у гару і выпарываецца; зямля пухляная гэта як бы кнот да палавіны падрэзаны над кірасінам, і кірасіну у два разы меньш падходзіць к агню, цёмна гарыць.

Для росту расьліны, апроч вялікай меры вады, трэба і паветрэ, бо толькі пры гэтых добрых варунках можэ гной і розные цьвёрдые часткі зямлі раскладацца і выробляць сокі, каторымі жывець расьліна.

У восень людзі аруць поле, каб задаць работы бацьцы марозу: ён ня толькі за вушы шчыпець людзей і гоніць на цёплую печ, але ешчэ ён, замарозіўшы у камень мокрые пласты ральлі разганяець і разрываець шырэй часьціцы зямлі, і яна пульхнее. Мароз вымаражываець і розные непатрэбные гаспадару травы. Вада замерзаючы расшыраецца больш, як на адну дзесятую часць, дзеля таго яна і разрыхляець зямлю.

На зіму не варта барававацць поле, бо яно не так вымерзаець.

Вясной баранаваць ня трэба, калі ешчэ зямля мокрая, бо поле заплывець і зробіцца крэпкая скарынка, ад каторай зямля будзе памалу сохнуць, і ня будуць працаваць маленечкіе нявідзі-

мые жывучкі (бактэрыі), каторых праца—як дрожджы для хлеба. Ізноў жэ шкадліва і надта познае баранаваньне, калі зімная пахата ужо зацьвярдзеець і усохнецца. Злавіць момэнт баранаваньня гэта надта важная рэч, ад гэтаго залежыць, можна сказаць, ураджай, а у нас баранують калі ёсць час!

Трэба усё кідаць, а ісьці баранаваць, бо баранаваньне у пару сахраняець зімовую вільгаць, патрэбную для росту яравога.

*Вясной* трэба наагул старацца не араць поля, бо мы пераварачываем і сушым як раз той слой зямлі—гдзе павінна быць вільгаць для карэнёў, дзеля таго пад яр трэба араць з восені. Але у нас восень кароткая, і часамі не пасьпеваем двайць поле да зімы, дык лепш вясной поле перэрабіць, чым оркай перасушыць.

Асабліва ня трэба араць пад авёс вясной, бо авёс і „праз валовую скуру пралез“. Пасьля пасеву аўса на зімняй пахаце трэба ягоправіць спружыновай бараной, а не заорываць, як гэта у нас робяць,—сеяць пад звычайную барану так сама нядобра, бо зярно будзе зверху, і ад сушы можэць пропасьць.



Спружыновая барана.

*Аб лубіне* на насеньне можна сказаць, што і яго лепш сеяць на зімовай ральлі пад барану.

*Авес* на мокрых мейсцах, падзолістых, глінiстых можна сьмела сеяць пад саху.

*Ячмень* любіць мякка выробленую зямлю, і, калі ральля з восені не выраблена добра, то яе трэба безпраменна хацяб ешчэ і два разы перэараць вясной.

*Гарох* не баіцца недаробленай пахаты, але яго лепш сеяць пад саху, а не барану, бо круглые гарошыны перэкачываюцца і не закрываюцца боронамі.

Пад *бульбу* трэба акуратна і глыбока араць, вясной найлепш працаваць *спружыновай бараной* (амэрыканская на 5 зубоў каштуець 15 руб.)—гэта найлепшая прылада пры нашых сухіх вяснах.

Карысна сеяць радавымі сеялкамі, але перш, што яны дарагі (ад 80 руб.), а другое пры нашых вузкіх загонах, каменьнях, кепскай вырабцы і цьвёрдасьці грунтоў рэдка у якой гаспадарцы можна працаваць гэтай карыснай машынай.

Вясной трэба і пасьля спружыновай бараны старанна *баранаваць,* каб такім спосабам затрымаць веснавую вільгаць.

Калі пасьля дажджу зробіцца *скарынка* паверх поля, то яе трэба ламаць баронамі, хацяб ужо паказаліся усходы аўса і гароху, бо расьліна пушыцца пад гэтай скарынкай.



Сеўнік.

*Час севу.* С пачатку трэба сеяць *канюшыну* па азіміні, калі ешчэ мокра і увесь сьнег не зыйшоў; тагды яе дробненькіе зерняты у мокрую зямлю скарэй улезаюць, як у сухую.

*Сэрадэлю* так сама можна сеяць па жыце ці на чыстае поле, яна не баіцца марозу, а засеяная пазьней дрэнна расьце.

*Авёс* наш народ сеець найчасьцей, калі дрэва распукаецца.

Калі *канюшына* сеецца пад ячмень, трэба старацца раней сеяць.

*Бульба* ня любіць халоднай зямлі, яе садзяць, калі ужо пройдзе страх на марозы; калі ужо красуюць яблыні і грушы.

---

# Агарод каля хаты.

Усю вясну і цэлае лета бабы і дзеўчаты поўзаюць на градах, садзяць, полюць, перэкапываюць, а у восень гаспадар едзе у мястэчка купляць агуркі і капусту.

У агародзі, як і у полі павінен быць парадак, бо калі начнеш з году на год на адным мейсцы садзіць капусту, то яна будзе расьці з кілою, а і буракі не парастуць таўшчэй за пацуковы хвост.

Каб варыво радзіло трэба мець добрае насеньня, а не зьбіраць са свайго агароду, і апроч таго завясьці пладазьмен, каб варыва ішло адно за другім; дзеля чаго трэба агарод разбіць на тры палоскі так, як паказано на гэтай табліцы:

| Першы год | Другі год | Трэці год |
|---|---|---|
| I поле<br>капуста<br>агуркі<br>гарбузы<br>(восеньні гной) | I поле<br>буракі<br>морква<br>рэпа<br>бульба<br>(бяз гною) | I поле<br>боб<br>фасоля<br>гарох<br>выка<br>(бяз гною) |
| II поле<br>буракі<br>морква<br>рэпа<br>бульба | II поле<br>боб<br>фасоля<br>гарох<br>выка | II поле<br>капуста<br>агуркі<br>гарбузы<br>(восеньні гной) |
| III поле<br>боб<br>фасоля<br>гарох<br>выка | III поле<br>капуста<br>агуркі<br>гарбузы<br>(восеньні гной) | III поле<br>буракі<br>морква<br>рэпа<br>бульба |

З варыва толькі капуста, агуркі і гарбузы любяць гной і то ня сьвежы, а восеньні, другое варыва баіцца сьвежага гною.

Самы лепшы гной пад варыво—гэта кампост, дзеля гэтаго выберы у агародзе вольны кутокъ і скідай там у адну кучу усякае зельле, памёт курынны, торф, попел, сажу, памыі, пасыпай вапнай і за лета разоў два, тры перакідай лапатай, пакуль усё гэта не перэгніе, а у восень раскідай на тэй дзелянцы, гдзе мае быць капуста.

Каб у агародзі меньш было поліва, дык варыва садзяць у рады, дзеля чаго пераорываюць у восень раз, вясной другі і простымі барознамі і садзяць варыва пад шнур, а як толькі яно начынае падымацца, дык абсыпаюць варыва плужком, а полюць толькі сам гребень град, паміж калівамі.

Ураджай і дабрата варыва многа залежыць ад гатунку насеньня, бо бывае, што і парасьце усё добра, а зімуе кепска, і на смак дрэннае, дык не шкадуйце рубля на добрае насеньня.

Самая лепшая капуста—Браўншэйская, агуркі—Аксельскіе, буракі да яды—Егіпэцкіе, кармавые для скаціны—Экендорфскіе,

полуцукровые, морква зялёная галоўка, бульба Сілезія і Вольтмана, гарох—Вікторыя.

Калі гаспадар пабачыць, што з малога кавалка зямлі можна мець многа варыва, дык пачне садзіць і у полі буракі і маркву для сваей жывёлы.

**Ю. Б.**

---

# Садок каля хаты.

Весялей выглядае хата, калі яе абнімае пекны садок, а пад аконцэм красуюцца кветкі; далёка чутна і тая гаспадыня, у каторай варыўны агарод багаты усякім дабром.

Тым часам садоў па нашых вёсках мала, а і ў тых дрэўцы, што вырасьлі, выглядаюць, як дзічкі, агароды запушчэны і не даюць гаспадару ніякай карысьці; а шкада, бо прылажыўшы трохі працы і розуму можна прыдбаць не мала дабра і з варыва. Наш хлебароб круглы год жывіцца зярном і варывам, а толькі на Спаса папрабуець яблычка, у патрэбі і варыва і яблычкі купляе на таргу, бо сам не умее іх выгадаваць.

Пры кожнай сялібе знойдзецца зашчытны пляцок, закрыты ад ветроў с поўночы і захаду будынінай, гдзе можна пасадзіць 10 — 15 дзярэў.

Мейсцэ пад сад не павінна быць нізкае, каб пракапаўшы яму у тры аршыны не даставаць вады. Яблыні любяць ніжэйшае мейсцэ, грушы, добра растуць і на узгорку.

Пляц, выбраны пад сад, трэба узараць, добра выгнаіць і садзіць варыва, пакуль дзерэво не пачне радзіць, як толькі яблынька дае пуд яблык, дык переставай ужо садзіць варыва, блізка яблыні і грушы, бо нельга з аднаго вала дзерці дзьве скуры, а ускапывай толькі зямлю пад дрэвам і хай яна папарэе, бо калі пачнеш і варыво садзіць і яблыкі гадаваць, то ні с таго ні з другога карысьці ня будзе.

Шчэпы найлепш садзіць на чатыры сажні адзін ад другаго ва усё бакі, бо калі пасадзіць гусьцей, то потым гальлё зойдзецца, а абценіць дзерэва, развядзецца на гальлях мох, а яблыкі будуць дробные і паршывые.

У садзе ня трэба садзіць многа гатункоў: антоноўка і шклянковая самые пэўные у нас яблыні і прыгожы для малога гаспадарскаго садка; з груш, для пацехі дзяцей, пасадзі па аднэй: малгажатку, сапежанку і вінёўку.

Шчэпы трэба купляць у людзей пэўных, бо іначэй насадзіш усякай дрэні.

У нашай старонцы найлепш садзіць дзерэва вясной, а ямы капаць восеньню, каб земля перамёрзла.

Яма павінна быць шырынёй тры аршыны, глыбінёй паўтара.

Капаючы ямы верхнюю зямлю аткідай у адзін бок, а дольную у другі і каля кожнай ямы прыгатуй поў ваза кампосту—перагною (нассувай з вуліцы зямлі, прывязі трохі торфу, дабаў гною, перасып вапнаю, скідай у адзін вал, а праз лета разоў тры перэкідай лапатай. каб усё гэта перамешалося і пераrгніло). Найлепш садзіць шчэпы раньняю вясною, пакуль пучкі не пачнуць распухаць. Саджаючы шчэпы трэба перш яму засыпаць на дзьве трэці зямлёй, убіць у сярэдзіну кол і каля кала насыпаць курганчык з самай лепшай зямлі, у гэны курганец, разгарнуўшы зямлю, і трэба ставіць шчэпы, раскладаючы карэньчыкі і абсыпаючы іх зямлёй так, каб шейка дзерэўца на тры пальцы была над зямлёю, бо земля абляжэ і дзерэво уплыве у глыб. Ніхто не зашкодзіў дзерэву, садзячы яго высока, а многа садоў прапала дзеля таго. што пасадзілі шчэпы лішне глыбока. Пасадзіўшы дрэва трэба яго лёганька прывязаць да калка, каб яно магло оседаць, а зямлю каля дрэўца разгарнуць і зрабіць з яе місачку да паліваньня. Шчэпы трэба часта палівадь вадой, а зямлю каля дрэўца прыкрыць саломістым гноем, каб лішне не перэсыхала.

Садзячы шчэп трэба добра аглядаць карэньчыкі, каб не было паломаных і з абдзёртай карой; папсутые карэньчыкі трэба абрэзаць, але умеючы, нажом, так каб рэз прыходзіўся плазам у сярэдзіну, каб земля добра к яму прылегала.

Кончыўшы обрэзываць, карэні, бяруцца за сукі;кожную галінку трэба абрэзаць на $1/3$ — $1/2$, толькі умеючы, ня блізка і ня почку і не на наружную почку, каб новая галінка расла наружу, а не ў сярэдзіну кароны.

Мала таго, што дрэва будзе добра пасаджэна, але і потым трэба яго даглядаць: земля каля шчэпаў павінна быць заўсягды узварушэна, паліта вадой, сухі ліст абарваць ешчэ зімою, вясною зняць гусень з яечкамі чэрва; абрэзаць сухіе галінкі і абчысьціць мох. Каб дрэва усьцерагчы ад марозу, вясенняго сонца і зайцоў, трэба абвязываць і на зіму ялоўцэм, або ельнікам. ці кулевой саломай.

На старшых дрэвах трэба кару аскрэбаць і абмараваць глінаю с калам гавяжым, дабавіўшы трохі вапны і скіпідару (на цэбэр гушчы кварту шпікідару і шуцель вапны).

Зрабіўшы усё так, як тут напісана, будзь пэўны, што не раз твае дзеткі успамянуць цябе добрым словам.

**Юрка Бусел с пад Слуцка.**

---

# Пчолы вясной.

Глаўным часам у жыцьці пчол ёсьць прадвесьне; ульлі павінны быць у цяпле, акрыцьця зімоваго не знімаць. Ульлі трэба аглядзець; калі яны зацьвілі плесеньню, то трэба яе да чыста выцерці і нежывых пчол вымесьці і іх спаліць, а не кідаць каля вульля, бо ад іх могуць пайсьці хваробы на пчол (пільнуйцеся!) Калі чэлавек гэтую работу зробіць, то пчолам на гэта ня трэба траціць часу, і яны больш зробяць вашчыны і панясуць мёду. Гэтые работы трэба рабіць у цёплы дзень, калі будзе 12—14 градусоў цепла, і пасьля ізноў закутаць саломай, бо у гэты час матка найчасьцей кладзець яечкі, каторым трэба цеплаты, бо калі чэрв застудзіцца, у вульі зробіцца хвароба — гнілец.

**Сок-ая.**

---

# Работы вясной на сенажацях.

На добры стан сенажацей у нас мала звертаюць увагі. А тым часам, пры нашых варунках, добрае лугаводзьтва гэта адзін з глаўных аддзелоў сельскай гаспадаркі.

Гадоўля скаціны цяпер дае вельмі добрые даходы. А павялічэньне збору сена паможэ пашырыць гадоўлю скаціны.

Сеяные на пателках травы вельмі часта гібеюць ад недахвату вільгаці, што шмат рэдзей здараецца с прыроднымі сенажацямі.

А тым часам для палепшэньня лугоў у нас зусім нічога ня робіцца. Калі нашы ніколі ня гноеные лугі ешчэ і родзяць, то толькі дзеля таго, што яны зазвычай ляжаць ніжэй за палеткі, з каторых разам з вадой сцекаюць і некаторые пажыўные часьціны.

Большая часьць нашых лугоў гібеець ад лішней макраты, Нашы сенажаці гэта па большай часьці балоты, на каторых растуць кілые, грубые, мала пажыўные травы, дзе касіць і пасьвіць скаціну цяжка дзеля безпраходнаго багна.

Не асушыўшы гэтые балотные сенажаці, німа што і думаць аб які́м бы то ні было палепшэньні сорту і меры збіранаго з іх сена.

Найбольш вядомы спосаб асушкі мокрых сенажацей—гэта аткрытые канавы, цяпер ужываюць і закрытые трубы (дрэны, гліняные і фашынные трубы) каторые не перэшкаджаюць работам на сенажацях. І гэта першая работа ня толькі дзеля асушкі сенажацей, але і для ўсей гаспадаркі; і хто хочэ падняць гаспадарку, той павінен хоць па троху асушаць свае сенажаці.

Асушеные і больш сухіе сенажаці трэба ачышчаць ад моху, курганоў, кустоў і комьеў.

Кусты трэба высекаць, а лепей выкапываць с карнямі.

Курганы і купіны зрэзаць рыдлямі ці лапатамі, або асобнымі для гэтаго зладжэнымі машынамі і складаць іх у кучы, каб перэгнілі. Апрача гэтаго трэба вясной баранаваць сенажаць да чорна, каб звясьці мох і даць доступ паветру да карэнёў траў, бо бяз гэтаго яны дрэнна растуць.

Ешчэ не так даўно думалі; што лепш не псоваць травяны дзірван, а лепей палепшаць яго пры помачы зверхняго баранаваньня звычайнымі лугавымі баронамі, падсеваючы насеньне змешаных траў і падсыпаючы гнаі (попелы) глаўным чынам калійные (каініт, калійная соль), якіх нехватае у нашых землях, асабліва тарфяністых.

У апошніе-ж часы усё часьцей пачынаюць аднаўляць травяны дзірван, пераворываючы сенажаць і засеваючы на ёй кармавые травы.

Сенажаць заворываюць зазвычай з восені, саўсім мелка, стараючыся саўсім перэварывачываць пласты, каб дзірван мог хутчэй перагніць.

Вясной не перэварачываюць глебы, а высеваюць ярыну, часьцей за усё авёс, разам с каторым высеваюць мешанку траў: швэдзкай канюшыны, цімафейкі, аўсянца луговога, яжы зборнай, італьянскаго і англіцкаго рэйграса і др. і падсыпаюць попелоў—глаўным чынам каініт, катораго даюць ад 12 да 40 п. на дзесяціну, і томасшляк ад 9 — 20 пудоў.

Каб хутчэй перагніў дзірван, яго разрэзаюць перэд успашкай діскавымі баронамі. Часам два гады пад рад сеюць авёс і не паднімаюць запаханаго дзірвана на верх, каб ён лепей перагніў.

Апрача гэтаго вясной трэба глядзець за старымі канавамі, каб яны не засыпаліся і каб вада магла вольна працекаць па іх.

Трэба саўсім закінуць вельмі шырока практыкаваны звычай, асабліва па вёсках, пасьвіць скаціну вясной на сенажацях. Шмат ёсць такіх траў, каторые, раз зведзеные, ужо не адрастаюць; вясной лепей за ўсё расьце трава, а посьле, калі настане сьпека, яна ужо не так расьце, ды ад спашы спазьніваецца сенакос, што у гаспадарцы саўсім не карысна.

Э. С.

---

# Калі скаціна можэ даваць даход.

Нам давялося вясьці гутарку з інструктарам малочнай гаспадаркі Мінскай губ. С. І. Дмітруковым, каторы 12 гадоў працаваў у Міншчыне.

Павэдлуг думкі Дмітрукова мае вялікую вагу ня столькі выбор пароды, як добры дагляд і разумнае харчэваньне каровы.

Калі добра і рацыянальна карміць скаціну, то можна мець даход і ад *тутэйшай беларускай* чырвонай *пароды*. І ёсць прыклады, што голендэрская парода, каторую разводзілі ужо 25 гадоў, пры кепскім даглядзе і слабых харчах саўсім вырадзілася і страціла сваю млечную гатунковасць.

Як і тутэйшая парода можэ даць даход пры корме інтэнсіўна - індывідуальным (гэта такі спосаб раздачы корму, што тэй карове, што больш дае малака, даецца больш корму ды лепшаго, чым тэй, каторая меньш малочная) можна бачыць на прыкладзе стада на двары Буда (ст. Дараганова Л. Р. ж. д.) 4 — 5 гадоў таму назад скот быў толькі дарагой машынай для вырабкі гною і апрыч малака для гаспадаркі даваў усяго 700 р. агульнаго даходу у год.

Дмітрукоў парадзіў заняцца акуратным падборам стада па малочнасьці і лепшых кароў карміць пажыўнейшым кормам. І вось праз 5 гадоў, ужо у 1908/9 гаду 55 кароў дало 33167 гарнцоў малака на агульную суму 4,836 руб.; срэдне карова дала 166 вёдзер малака у год, а найлепшые каровы далі па 275 вёдзер. А прафэсар Богданов тымчасам даводзіць, што добрые каровы даюць 129—193 вёдры, а найлепшые 322 вёдры.

*Расходы*: на 55 кароў у м. Будзе:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| атрубоў . . . . . . . . . | 1280 пуд. | па 60 кап. | — | 768 руб. |
| бульбы, буракоў . . . . . | 3644 „ | „ 15 „ | — | 546 „ |
| Разам . . . . . . . . . . . . | | | | 1314 руб. |

Сена, салому, мякіну, каторые дагэтуль не перэрабляліся ў малако і грошы, мы ня будзем лічыць; трэба ешчэ дадаць да расходу 500 руб. на догляд.

Значыць расход будзе 1814 руб., а даходу 4836 руб.

Вось і выходзіць, што чыстаго даходу с 355 кароў было 3022 руб.

Бугаёў бралі простай пароды, або крыху мешаных.

За 12 гадоў сваей працы Дмітрукоў пабачыў вялікі поступ гадоўлі быдла у Міншчыне, але найбольш у вялікіх дварах і толькі дзе недзе у меньшых.

Лепшымі аборамі, даючымі тарговы даход, Дмітрукоў лічыць гэткіе:

Чыстакроўнаго голендэрскаго быдла — Турчынскаго над Мінскам; у двары Лонухі Наркевіча - Іодко — швіцы, дв. Бобовня Трусколяскай — швіцы, дв. Станькоў Чапскаго — швіцы, Самолево Чапскаго — швіцы, Прылукі — голендэрскі; Красны Берэг Паклеўскаго — галендэрскі і сімэнталь, м. Белічы Даманскаго — голендэрскі.

За гэты час нарыхтавалася і прадажа малака, масла і др. прадуктоў малочных; тавар гэты ідзець у Мінск, Кіеў, Одэссу, Варшаву; заграніцу мала ідзець, бо масла асобным спосабам трэба выраблять і пасылаць адразу вялікімі партіямі.

**А. У.**

# Лубін.

Першы варунак падняцьця кожнай сельскай гаспадаркі гэта павялічэньне ураджайнасьці поля, а ураджаі павялічацца толькі тады, калі мы пачнем лепш гнаіць ральлю.

Дзякуючы вільготнасьці нашаго клімату, у нашых землях не набіраецца запасу перагноя. І гэтае шпаркае вымываньне дажджамі запасоў корму з зямлі, трэба папаўняць дакладаючы пажыву для расьлін са стараны, што мы і выпоўняем унаважываючы ніву. Але дзеля таго, што нашы гаспадаркі мала маюць гною, то з году на год глеба бяднее.

Гэты недахват хлеўнога гною, можна дапоўніць зялёнымі гнаямі.

Зялёнымі гнаямі называюцца перэгніваючые у зямлі расьліны, каторые сеюцца не для збору, а для заворываньня.

Глаўнае значэньне зялёных гнаёў у тым, што яны багацяць глебу найбольш патрэбным для расьлін азоцістым кормам. Азоту многа у паветры, але расьліны ня могуць узяць яго с паветра, а павінны дастаць з глебы. І вось „матыльковые“, расьліны ловяць вольны азот с паветра і перэрабляюць яго у форму прыгодную для пажывы усіх бяз розніцы расьлін.

Посьле матыльковых расьлін глеба не бяднее, а наадварот багацее азотамі (глаўным кормам расьліны). І там, дзе сеюць многа бабовых (спавэдле красак яны называюцца „матыльковымі“, бо калі добра прыгледзімся, то ўбачым, што іхня краска падобна да матылька, а павэдле зерна называюцца „бабовымі“, бо зёрны усе матыльковые расьліны маюць падобные да гарошынак, або бобу), ураджаі бываюць шмат лепшые.

На карэнчыках усіх матыльковых расьлін: гароху, лубіну, канюшыны і інш. ёсць невялічкіе жаўлачкі, у каторых жывуць маленькіе грыбкі, каторые кормяцца азотам с паветра і такім способам робяць запас азоту у зямлі.

Але асабліва многа азоту выбірае с паветра лубін.

Лубін мае шмат дробных карэньчыкоў. Дзеля гэтаго лубін можэ удавацца на самых бедных, сухіх, пешчаных землях. Пры помачы сваіх карэньнёў, ён зьбірае пажыўные часткі з вялікаго кавалка зямлі, а доўгі стрыжневаты карэнь пазваляе яму даставаць сокі с такіх слаёў зямлі, каторые ніколі не высыхаюць.

Дзякуючы такім багатым карэньням гэта расьліна пышна расьцець, нават у самых невыгодных варунках і даець багатае сьцібло, часам да $1^1/_2$—2 аршын вышынёй.

Калі мы гэткую расьліну заором, то ад гніцьця яе, будземо мець многа перагною і вельмі цэннаго азоцістаго корму.

Вось у гэтым і ёсць уся мудрасьць ужываньня так званых зялёных гнаёў.

Лубін заворываецца у нас глаўным чынам пад азіміну, а такжэ і пад ярыну—авёс і бульбу.

На зялёны навоз лубін высеваецца у маі, або у пачатках чэрвеня (іюня). Лішне рана не варта сеяць лубіну на гной.

Дзеля таго, што с прычыны прымарозкоў ён не так буйна развіваецца і дае менш зялёнай масы, чым пасеяны у больш цёплую пару.

Трэба асьцерэгацца сэяць лубін і лішне позна, бо летняя суш так сама не памагае на узрост яго.

Пад лубін лепей заараць зямлю ешчэ з восені. Пры цяперашніх сухіх гадах веснавая орка лішне высушае зямлю нават для лубіна і дзеля гэтаго не заўсёды карысна бывае другая орка вясной пад лубін, каторы цьвёрдай зямлі не баіцца.

Але калі поле не заарана з восені, то яго трэба заараць вясной і чым раней, тым лепей, абы было ні надта мокра.

Лубін ня можна глыбока прыкрываць. Калі мы яго пасеем на заараным полю, то досыць забаранаваць жалезнай бараной, а то і дрэўлянай. Лепей за ўсё высеваць яго радавой сеялкай. Сеяць трэба густа, тады ён раней і лепей аценяе зямлю і не дае разрастацца зеліву. У нас сярэднім трэба высеваць 14 пудоў на дзесяціну, але можна і гусьцей.

Са ўсіх гатункоў лубіну: белаго, жоўтаго і сіняго, у нас найбольш сеюць сіні, каторы дае найболей зялёнаго матэрьялу.

Але на сыпучых пяскох і у нас трэба было-б пробаваць сеяць жоўты лубін, каторы расьце і на найбольш бедных землях.

Лубін с пачатку расьце памалу і часамі на занячышчэнным полі яго саўсім заглушае трава. Але калі разрастуцца крэпкіе карэнья лубіна, тады ён пачынае хутка расьці і даходзіць да вялікай меры.

Красуе ён ў іюлі, або у Аўгусці і к канцу красаваньня даходзіць найбольшаго росту.

Даўней заворывалі яго ў часе красаваньня, цяпер лічаць, што чым больш на ім струкоў, тым больш дае ён пажыўных часьцін. Раней заворывалі яго за 2—3 тыдні перад пасевам жыта, цяпер-жэ заворываюць перэд самай сяўбой.

На насеньня лубін трэба сеяць у нас, як можна раней,— у першых днях красавіка (апрэля), дзеля таго, што пасеяны пазьней ён у нас не дасьпеваець.

Для насеннаго лубіну трэба выбіраць палўднёвые склоны, каб яго магло, як можна больш прыгрэваць сонцэ.

Трэба асцерэгацца глiністай глебы і нават падглебьбя, бо бывалі выпадкі, што на гэткіх мейсцах ён не дасьпеваў.

На насеньне трэба высеваць яго гусцей. Тады ён ня можэ кусціцца і хутчэй і дружней дасьпевае. На насеньне трэба яго высеваць 16—18—20 пудоў на дзесяціну.

Трэба шмат больш сеяць лубіну на насеньне, чым гэта робяць дагэтуль. Цэны на яго стаяць высокіе. Сёлета 1 р. 20— 1 р. 50 к. плацяць за пуд,—больш чым за авёс і жыта.

Родзіць ён лепей чым авёс і грэчка на самых благіх землях. Сярэдні ураджай яго бывае да 70 пудоў з дзесяціны тады, калі жыта, або аўса да 40 пудоў. А ня рэдка бывае у нас ураджай да 200 пудоў лубіна з десяціны (троцкі павет). І дзеля гэтаго на яго трэба больш зьвярнуць увагі.

Зьбіраць яго можна познай восеньню, калі часць стручкоў пацямнее. Зьбіраюць яго серпамі, косамі, або жнівяркамі.

Насеньне лубіну хутко псуецца і дзеля гэтаго трэба яго малаціць ужо вясной і дзержаць зімой у сухім мейсцы, а вымалачэннае насеньне перекачываць.

**Троцкі Гаспадар.**

# Выстаўка насеньня у Мінску, у марцы 1912 г.

Выстаўка гэта паказала, чаго дабіліся лепшые гаспадаркі Міншчыны, і мусіць гэтые выстаўкі, як не патрэбуючые вялікіх грошэй, будуць рабіцца што год і пашырацца. Нарыхтована выстаўка мінскім таварыствам сельскай гаспадаркі, пры падмозе правіцельственнаго агранома Вельямінова-Зернова.

Як падымаецца гаспадарка, паказалі выстаўленые табліцы мінскаго сындыката; сындыкат прадаў:

| | у 1910 г. пудоў | у 1911 г. пудоў |
|---|---|---|
| белай канюшыны . . . . . | 300 | 400 |
| чырвонай канюшыны . . . . | 2400 | 3100 |
| сэрадэлі . . . . . . . . . . | 2000 | 3300 |
| вікі . . . . . . . . . . . | 3300 | 5000 |
| лубіну . . . . . . . . . . | 27000 | 40000 |
| чылийск. салетры . . . . . | 6000 | 7000 |
| гіпсу . . . . . . . . . . | 14000 | 17000 |
| калійнай солі . . . . . . | 15000 | 21000 |
| каініту . . . . . . . . . | 17000 | 24000 |
| супэрфосфату . . . . . . | 16000 | 29000 |
| томасшляка . . . . . . . | 133000 | 143000 |

Ешчэ у 1905—6 гаду усяго прадавалося у 5—7 разоў менш.

Залатую мэдаль за насеньня дастаў маёнтак Шчорсы гр. Хрэптовіча - Бутэнева, Навагруд. пав.; там ураджаі лепшые, як на расейскім чорназёме, і пэўнейшые.

У Шчорсах пшаніца данькоўская з 1 дзесяціны дала 201 пуд., пшан. лейтовіцкая — 205 п., пшан. цымбала—173 п.; жыта пэткускае — 177 пуд. ж. пробштэйнскае — 168 пуд.; ячмень Ганна,

моравскі—130 пуд., ячм. швэцкі Прынцэса—182 п.; авёс швэцкі свалёвскі —123 п., ав. пробштэйнскі—129 п.; швэцкая канюшына—14 п., чырвоная канюшына—13 п., цімафейка—24 пуд.

У м. Прылукі гр. Чапскаго ураджай што год падымаецца, трохі вагаючыся у ніз і у верх

| | у 1907 г. пудоў | у 1911 г. пудоў |
|---|---|---|
| з 1 дзес. жыта намалацілі . | 73 | 142 |
| „ „ пшэніцы „ . | 35 | 106 |
| „ „ аўса „ . | 120 | 141 |
| „ „ ячменя „ . | 100 | 129 |

Самая крахмалістая бульба у Прылуках пасьля пробы аказалася „Вольтман“: у 1000 пудоў гэтай бульбы ёсць 201 пуд. крахмалу, у бульбы „Гавронэк“—194 п. крахм., „Мэркер“—167 п. кр., „Бляурызэн“—153 п. кр.—Марьіна-Горская школа сельскай гаспадаркі паказала такіе ураджаі з 1 дзесяціны: лёну (семя)—$38^1/_2$ пуд., аўса—91 пуд., жыта — 101 п., пшаніцы—117 п., бульбы—750 п. З м. Ігнатычы В. Ельскаго пад Мінскам выстаўлена было 33 сорты дабра, цікавы авёс „Гвітліна“ швэцкі, белае зярно і ценькая шэлупіна і не абсыпаецца; у гэтым маёнтку засеяна 8 маргоў бульвы (земляная груша), яе бульвіны можна позна вынімаць з зямлі і сцябло годна на корм; гэта самы позны корм, і 60 кароў карміліся ім 1 месяц.

Мужыцкая гаспадарка была прэдстаўлена слаба, новае земства ешчэ толькі пачало сваю працу і прэдставіло толькі работу ачыстнай машыны у м. Ракові. Прад тым, як сеяць, гаспадары гэтай машынай (трыерай) вывеіваюць шмецьцё і лёгкае зярно. Вось што гэта машына паказала;

у 100 пудох ячменю знайшлося:
- чыстаго зерня . . . . . . . . . . 73 пуд.
- куколю . . . . . . . . . . . 20 „
- гарошку . . . . . . . . . . . . 7 „

у 100 пуд. пшаніцы:
- чыстаго зерня . . . . . . . . . . 66 пуд.
- куколю . . . . . . . . . . . . 15 „
- гарошку . . . . . . . . . . . 9 „
- авсюгі . . . . . . . . . . . . . 9 „

У канюшыне была пятая часьць лёгкаго шмецьця.

Жычым земскім аграномам, каторые шчыра бяруцца за працу, каб яны добра пазналі мужыцкую гаспадарку, тагды і лягчэй можна выпрацаваць разумны плян праўдзівай помачы вясковым землеробам.

Выстаўка паказала, што Беларусь с часам можэ зрабіцца жытніцай Расеі, бо і клімат, і глеба, і народ прыгодны для гаспадаркі.

**А. У.**

# АБВЕСТКІ.

**Адрэсы фірмоу.** (У гэтым аддзелі кожны адрэс друкуецца 1 раз за 50 кап.).

**Сельск. гасп. машыны, прылады, насеньня:** Зыгмунт Нагродзкі Вільня Завальная 11.

**Дрэвы садов. ліств. рожы.** Мінск, Ігнатычы, пітомнік.

**Насеньня палевые, дрэвы садов., для прысады.** Почта Васілішкі Віл. м. Лебёдка. Л. Іваноускаго.

Студэнт аграном Ново-Александроускаго Інстытуту хочэ быць на лета практыкантам, рэпэтытарам, адрэс у рэдакціі.

Шукаюць майстэра, умеючаго рабіць консэрвы з фруктоу і ягад. Адрэс у рэдакціі.


## МІНСКІ
### Сельска-гаспадарскі Сындыкат.

**Склады машын, прылад гаспадарскіх, насеньня і штучных гнаёу**

**У МІНСКУ, ПІНСКУ і ОРШЫ.**

**Прапануем па танных цэнах для дробных гаспадарак.**

Вядомые с сваей дабраты плугі „СУХЭНІ“.
Лепшые малатарні і манэжы „ВОЛЬСКАГО“
Англіцкіе сечкарні.
Арфы (веялкі) розных сыстэмаў.
Амэрыканскіе пружыновые бароны.
Амэрыканскіе жніваркі „МАК-КОРМІКА“, лёгкіе і наймацнейшые з усіх жнівярак.

АДРЭС ДЛЯ ЛІСТОУ:

**Мінск-Губэрнскі—Мінскі Сельска-Гаспадарскі Сындыкат.**


Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вільня.